Vybitnamu synu Ajčyny

Стар. 3

# РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Adolf KLIMOVIČ: Skarb, jakoha nie ŭkradzie złodziej...

Стар. 7

ISNN 1392-7671 № 77 Верасень 2016 г.

# 1 верасьня – Дзень Ведаў

*Павал САЎЧАНКА*

**Гэты дзень у Віленскай гімназіі імя Францішка Скарыны пачаўся з традыцыйнай лінейкі. Гімназісты, іхнія бацькі, высокія госьці, дзеючыя і колішнія настаўнікі сабраліся на школьным падворку, каб паслухаць са шчымлівай настальгіяй гучаньне першага званка. Пляцоўка, абмежаваная дрэвамі і кветкамі, падкрэслівала сьвяточную ўрачыстасьць. Усе вучні пашыхтаваліся клясамі са сваімі кіраўнікамі. Яны віталі новае папаўненьне гімназіі – першаклясьнікаў, якіх у гэтым годзе – 20 чалавек. Хаця жадаючых было нашмат больш, але клясныя памяшканьні не разьлічаныя на большую колькасьць.**



— Кожны год мы адзначаем Першага верасьня як сьвята навукі і ведаў, сьвята творчасьці і пазнаньня, сьвята вяртаньня да працы і вучобы, – прамовіла дырэктарка гімназіі Дзіяна Стахновіч. – І мне вельмі прыемна, што сёньня ва ўсіх нас сьвяточны настрой, што гэта сьвята аб'ядноўвае і дарослых, і дзяцей, таму што кожны дарослы быў калісьці таксама школьнікам, і ім таксама ёсьць што ўспомніць пра гэты дзень, пра школьныя гады. Першага верасьня – дзень сапраўды знамянальны й хвалюючы. Асабліва хвалюючы, вядома, ён для тых, хто першы раз прыйшоў сёньня ў школу – для нашых новых вучняў, для дзетак падрыхтоўчай групы, якіх у нас сёньня дваццаць, для першаклясьнікаў і іх бацькоў. З гэтага дня пачынаецца ваш шлях у Краіну ведаў. Хай ён будзе пасьпяховым і шчасьлівым! Актыўнага школьнага году, энэргіі і мэтанакіраванасьці я хачу пажадаць усім нашым гімназістам, а асабліва дванаццаціклясьнікам. Паважаныя дванаццаціклясьнікі! Для вас гэты год самы важны. Няхай ён будзе плённым, няхай ён наблізіць вас да ажыцьцяўленьня вашых запаветных мараў. Паважаныя бацькі! Для вас гэта таксама сьвята. Я вас віншую і шчыра жадаю, каб вашыя дзеці вас часьцей радавалі. Паважаныя калегі! І вас са сьвятам, з новым навучальным годам усіх!

Першаклясьнікаў вялі на лінейку пад гукі музыкі па даўняй традыцыі будучыя выпускнікі гімназіі. Новае папаўненьне віталі апладысмэнтамі настаўнікі, бацькі, шматлікія госьці, сярод якіх – амбасадар Рэспублікі Беларусь у Літоўскай Рэспубліцы Аляксандар Кароль, дарадца-пасланьнік Людміла Татарыновіч, прадстаўнікі Дэпартамэнту нацыянальных меншыняў Літвы, віленскай мэрыі, сянюніі Каралінішкаў.

— Гэта сьвята кожнага з нас, бо якіх-бы вышынь мы не дасягнулі, шлях да іх пачынаецца са школы, – падкрэсьліў амбасадар Беларусі ў Літве Аляксандар Кароль. – Сёньня ўсе мы, дарослыя, крыху зайздросьцім вам, тым, хто сядзе за школьныя парты, бо гады вучобы ў школе – гэта, безумоўна, самы займальны, самы насычаны, незабыўны і пры гэтым самы адказны пэрыяд у жыцьці. Шаноўныя першаклясьнікі, Дзень ведаў у першую чаргу – ваша сьвята. А якое-ж сьвята без падарункаў? І ў гэты ўрачысты дзень мы ўручым кожнаму з вас памятны падарунак – школьны ранец зь неабходнымі для вучня ў рэчамі. У гэтым годзе падарункі для нашых першаклясьнікаў былі падрыхтаваныя беларускай кампаніяй "Газпром трансгаз Беларусь".

Усім першаклясьнікам амбасада падаравала сумкі-заплечнікі з усімі школьнымі прыладамі, пакеты з падручнікамі. Асаблівым падарункам ад Беларусі быў "Буквар Аршанскі". Лемантар, які пабачыў сьвет толькі сёлета ў чэрвені, склалі аршанскія пэдагогі Сяргей і Галіна Трафімавы. У цікавай і займальнай форме, штопраўда, на рускай мове, выданьне распавядае пра гісторыю аршанскага замчышча і ваколіцаў, біяграфію Ўладзіміра Караткевіча, падае зьвесткі пра першы "Буквар" працы друкара Сьпірыдона Собаля, складзены яшчэ ў 1631 годзе. Таксама Беларусь падрыхтавала для ўсіх першаклясьнікаў кнігу "Беларусь – мая Радзіма".

Дзеці дзякавалі гасьцям за ўрачыстасьць і падарункі музычным выступленьнем. Госьці выступілі з прамовамі, у якіх жадалі ўсім вучням посьпехаў у авалоданьні ведамі, вырасьці годнымі грамадзянамі краіны, памятаць і праслаўляць сваю Бацькаўшчыну, свае беларускія карані і беларускую мову.

— Сёньня асаблівы дзень – Першага верасьня, Дзень ведаў, і я радая, што літоўская дзяржава стварае для вас умовы вучыцца на роднай мове, – паведаміла загадчыца аддзела сувязей з нацыянальнымі суполкамі Дэпартамэнту нацыянальных меншасьцей пры Ўрадзе Літоўскай Рэспублікі Раса Палюкене. – Гэтая школа зьяўляецца асаблівай навучальнай установаю. Гэта адзіная школа, дзе беларускія дзеці могуць вучыцца на роднай мове, гэта значыць, на беларускай мове, пазнаваць беларускія традыцыі й культуру. Вучні, якія закончаць гэтую школу, стануць асаблівымі – яны будуць ведаць ня толькі дзяржаўную літоўскую мову, але й беларускую, прывяжуцца да сваіх каранёў, і, спадзяюся, будуць жыць і працаваць на карысьць літоўскай дзяржавы.

*Працяг на стар. 4*

# Імша для ўсіх

**Дзевятнаццаць гадоў таму непадалёку ад мястэчка Сьвянцяны блізу дзяржаўнае мяжы адбылося першае беларускае Купальле агульналітоўскага маштабу. Зрэшты, жыхары Сьвянцянаў могуць паганарыцца не адным гэтым.**

"W imię Ojca, i Syna, i Ducha Świętego. Amen" – гэтак пачынаецца, здавалася-б, звычайная польскамоўная імша, якія часта можна пачуць у шматлікіх каталіцкіх касьцёлах на тэрыторыі Літвы й Беларусі. Аднак у сьценах Сьвянцянскага касьцёла Ўсіх Сьвятых мэса гучыць яшчэ й на рускай і беларускай мове. Гэткім чынам у адным асобным Сьвянцянскім касьцёле Ўсіх Сьвятых пасьпяхова рэалізуюцца пастановы Другога Ватыканскага сабору Каталіцкага касьцёлу. Паводле канстытуцыі Sacrosanctum Concilium, з 1969 году імшу дазвалялася зьдзяйсьняць на нацыянальных мовах. Мястэчка Сьвянцяны – шматнацыянальны горад. Таму й спатрэбілася аздобіць Літургію слова чытаньнем Сьвятога Пісьма ды малітваю вернікаў па-руску й па-беларуску.



Першы рыма-каталіцкі касьцёл быў пабудаваны ў Сьвянцянах паводле загаду Вялікага князя літоўскага Вітаўта яшчэ ў пачатку 15 стагодзьдзя. У 1898 годзе на падмурках колішняга драўлянага храма паўстаў каменны касьцёл Усіх Сьвятых. У крыху паднозўленым выглядзе сьвятыня захавалася да нашых дзён. Вось ужо некалькі гадоў у касьцёле служыць вікарый Марыян Апрышка. Ягонымі намаганьнямі сьвянцянскі касьцёл Усіх Сьвятых аздабляюць і беларускія элементы.

— Калі амаль тры гады таму мы прыехалі ў гэтую парафію, мы сталі знаёміцца з нашымі новымі парафіянамі, думаць, якія-б навінкі тут увесьці, – паведаміў вікарый касьцёла айцец Марыян Апрышка. – Параіўшыся, мы вырашылі, што кожны чалавек павінен слухаць Слова Божае, Эвангельле на сваёй мове. Нават Папа Пій XII у свой час гаварыў, што было-б добра, каб кожны народ слухаў Слова Божае на сваёй роднай мове, каб чалавек адкрыўся волі Божай, адкрыў сваё сэрца. Таму нарадзілася гэтая ідэя, каб чым больш людзей, няважна, якой яны нацыянальнасьці, прыходзячы ў наш каталіцкі храм, маглі знайсьці радасьць, спакой, надзею і любоў.

— Гэта цудоўная імша! – не хавае станоўчых эмоцыяў выканаўца абавязкаў старшыні Беларускай суполкі Сьвянцянскага раёну Марыя Рабовіч. – Бывае, што забіты ўвесь касьцёл: калі трохі спазьніўся, дык ня маеш дзе сесьці, такая цудоўная імша.

Парафіянка Галіна Балтрушэвіч чытае Сьвятое Пісьмо й прамаўляе малітву вернікаў па-беларуску.

— Мы з ахвотай ідзём на гэтую польскамоўную імшу, бо яна – для ўсіх, – кажа Галіна Балтрушэвіч. – Пакуль я працавала, было цяжэй, а, як выйшла на пенсію, болей часу маю, пагэтаму прыходжу ў касьцёл на сьвятую імшу. Тут мы ўсе можам памаліцца на сваей роднай мове. Я сама беларуска, нарадзілася ў Беларусі, у Віцебскай вобласьці. А потым маладой дзяўчынай прыехала сюды ў Сьвянцяны. З 1967 году жыву тут. Тут мая маладосьць прайшла, тут сустрэла я маё першае каханьне, тут сям'ю зрабілі, дзетак гадавалі. У гэтым касьцёле я шлюб брала, у гэтым касьцёле дзеці хрышчаныя, у гэтым касьцёле дзеткі шлюб бралі.

— Галя наша – цудоўны чалавек, – упэўненая Марыя Рабовіч. – Нягледзячы на штодзённыя клопаты, яна ва ўсіх сьвятах бярэ ўдзел, яна ксяндза віншавала, калі было тры гады, як ксёндз у нас у парафіі. Цудоўны чалавек! А наогул цудоўныя нашыя Сьвянцяны…

— У нашым цудоўным мястэчку ёсьць шмат нацыянальнасьцяў і канфэсій, – паведаміў а.Марыян Апрышка. – Я стаў цікавіцца і знайшоў грамаду беларусаў. Спадарыня Ніна Сусьвіла сказала, што беларусаў у Сьвянцянах дзьвесьце чалавек. Мы прыгожа суіснуем, і, думаю, гэта – цудоўны прыклад таго, як можна розным людзям у адной парафіі быць дзецьмі Божымі, сьведчыць пра сваю любоў да кожнага народа й інтэгравацца ў нашае грамадзтва.

— Тут у нас і зьмешаныя сем'і ёсьць, – пацьвердзіла Галіна Балтрушэвіч. – Мы ходзім на літоўскую імшу, яны прыходзяць на нашу польскую імшу, а цяпер з прыходам сьвятара Марыяна ў наш касьцёл польская імша ўзбагацілася чытаньнем Эвангельля на беларускай і рускай мове, таксама мы маем магчымасьць чытаць Сьвятое Пісьмо, Слова Божае і малітвы на сваёй роднай мове. Гэта нас вельмі захапляе.

— Усе жывуць мірна, – усьміхаецца Марыя Рабовіч. – Я думаю, калі па нашым касьцёле меркаваць, то й войнаў не было-б.

Сьвянцяны славяцца як нацыянальнай, гэтак і канфэсыйнай разнастайнасьцю. Адлюстроўваюць гэта пяць пагостаў. Разам з каталікамі ў літоўскай зямлі знаходзяць спачын праваслаўныя, стараверы, мусульмане і юдэі. Яшчэ ў міжваенным дваццацігодзьдзі ў Сьвянцянах дзейнічалі пяць сынагогаў. У 1740 годзе тут паўстала драўляная малельня старавераў, а праз сто дваццаць гадоў – і храм Успеньня Найсьвяцейшай Багародзіцы. Сьвянцянская праваслаўная царква Сьвятой Тройцы была заснаваная адначасова з касьцёлам Усіх Сьвятых – у 1898 годзе. Стары будынак царквы паўстаў на сродкі, вылучаныя царскімі ўладамі, а таксама на ахвяраваньні парафіянаў. Апошнімі гадамі храм відавочна патрабаваў капітальнага рамонту, аднак сродкаў на гэта да нядаўняга часу не хапала.

— У нас праваслаўных мала, – паведаміла Марыя Рабовіч. – У нас многа старавераў. Каталікаў, можа, семдзесят-восемдзесят працэнтаў, праваслаўных працэнтаў сем, астатнія стараверы. Дзякуй Богу, пачынае рамантавацца царква, такая ўжо прыгожая, але вернікаў ня шмат.

Зрэшты, праблемы ва ўсіх рэлігійных суполак, па вялікім рахунку, аднолькавыя. Маладую кроў выпіваюць буйныя гарады, а апошнім часам – і замежжа. Для людзей сталага веку ня мае літасьці няўмольны час. У гэткіх неспрыяльных умовах, калі важным становіцца ўжо не разьвіцьцё, а хаця-б самазахаваньне, сакрэтам посьпеху становіцца унутры- і пазаканфэсійная еднасьць.

— Мы жывём разам з усімі мясцовымі жыхарамі, – сказала Галіна Балтрушэвіч. – Мы разам працуем, разам адпачываем, разам гадуем дзяцей, унукаў, так можна сьмела сказаць, што мы ўдзельнічаем там, дзе бяруць удзел усе.

— Кожны чалавек народжаны любіць і быць любімым, – падсумаваў а.Марыян Апрышка. – Таму, калі ты аддаеш усяго сябе для свайго парафіяніна, паказваеш яму гэтую любоў ад шчырага сэрца, як і Ісус Хрыстос казаў: "Любіце бліжняга свайго, як і Я любіў вас", думаю, што нельга дзяліць, кожны чалавек па-свойму ўнікальны й цудоўны.

— Так прыемна паглядзець, як гэты ксёндз аб'ядноўвае ўсіх, – падзялілася Марыя Рабовіч. – Ён нават, бывае, і на ўкраінскай мове можа павіншаваць. Гэта душа такога маштабу. Ягоныя імшы заўсёды праходзяць цікава, і чалавек ён незвычайны.

— Усе мы палюбілі нашага сьвятара, ён такі добры, энэргічны, спачувальны, – прызналася Галіна Балтрушэвіч. – І нам хочацца пажадаць нашаму сьвятару Марыяну: няхай Божа добры й міласэрны адорыць яго шчодрым блаславеньнем, няхай дапамагае яму ў працах, няхай вядзе на вечныя дабрыты і захоўвае ад усяго дрэннага, каб ён яшчэ многа-многа гадоў працаваў у нашым касьцёле.

# Vybitnamu synu Ajčyny

**2015 hod u Litoŭskaj Respublicy byŭ abvieščany Hodam Michała Kleafasa Ahinskaha z nahody jahonaha dźviešcie piacidziasiataha jubileju, jaki nadoječy patrapiŭ u kalandar pamiatnych dataŭ UNESCO. I voś sioleta naprykancy studzienia ŭ Vilni źjaviŭsia novy abjekt dla turystyčnych ekskursijaŭ – multymedyjny ŭsłončyk, pry jakim možna pasłuchać muzyčnyja tvory słavutaha kampazytara.**

Muzyčnuju łaŭku litoŭskaj stalicy ŭručyła ambasada Polščy. Nia dziva: mienavita tam užo krychu bolš za dźvie z pałovaju sotni hadoŭ naradziŭsia viadomy kampazytar, dyplamat, hramadzki j palityčny dziejač Rečy Paspalitaj abodvuch narodaŭ. Znakamitamu šlachieckamu rodu naležaŭ dvor u litoŭskich Ahintach, što ŭ Žyžmarskim paviecie. U Biełarusi-ž Ahinskija vałodali majontkam Zaleśsie, jaki dahetul mieścicca pry samaj čyhuncy, što viadzie ź Mienska da Vilni. Pavodle zaleskaha krajaznaŭcy Siarhieja Vieramiejčyka, Ahinski paśla pryjezdu ŭ majontak nie źbiraŭsia rabić jaho kulturnym centram, ale svajoj fihuraj, svajoj šmathrannaj asobaj stvaryŭ vakoł siabie asiarodździe "Paŭnočnych Afinaŭ". Darečy, aproč Zaleśsia, Paŭnočnymi Afinami Ahinskija nazyvali horad Słonim. Zrešty, pasuje hetkaja vytančanaja definicyja j litoŭskaj stalicy. U Vilni zachavałasia niamała budynkaŭ, što naležali rodu słavutaha kampazytara. Mienavita ŭ Vilenskim Pałacy Vaładaroŭ letaś vosieńniu adbyłasia mižnarodnaja navukovaja kanferencyja "Michał Kleafas Ahinski. Asoba i epocha", u jakoj brali ŭdzieł navukoŭcy z troch krainaŭ: ź Litvy, Polščy j Biełarusi. Kanferencyju arhanizavaŭ Instytut historyi Litvy razam z Retaŭskim muzejem historyi kultury Ahinskich i nacyjanalnym muzejem "Pałac vialikich kniazioŭ litoŭskich".

— Instytut historyi Litvy ŭžo šmat hadoŭ pravodzić mižnarodnyja navukovyja mierapryjemstvy, – kaža dacent Instytutu historyi Litvy, doktar Ramunie Šmihialskicie-Stukienie (Ramunė Šmigelskytė-Stukienė). – My majem kantakty z asnoŭnymi navukova-daśledčymi centrami jak u Litvie, tak i ŭ Biełarusi. Supracoŭničajem daŭno, tamu arhanizavać takoje mierapryjemstva nie było składana. My padtrymlivajem ciesnyja suviazi z navukoŭcami ź Biełarusi, majem sapraŭdnaje partniorstva i supracoŭnictva. Tamu my zaprasili, i nas pačuli.

## Moŭny tryjumvirat

Kožny ŭdzielnik mižnarodnaj kanferencyi mieŭ unikalnuju mažlivaść pačuć pramovy kalehaŭ na svajoj rodnaj movie: aficyjnymi movami mierapryjemstva stali litoŭskaja, polskaja i biełaruskaja.

— Mnie radasna, što atrymałasia dla arhanizacyi kanferencyi atrymać dapamohu ad Ministerstva kultury Litoŭskaj Respubliki, – nie chavała pazytyŭnych emocyjaŭ Ramunie Šmihialskicie-Stukienie. – Tam zrazumieli, što treba zabiaśpiečyć pierakład, bo havaryć kožnamu na svajoj rodnaj movie vielmi važna. My možam pierajści na anhielskuju movu, ale ci treba heta, kali abjektam daśledaŭ źjaŭlajecca Vialikaje kniastva Litoŭskaje, kali my vyvučajem historyju, ahulnuju i dla nas, i dla biełarusaŭ, i dla palakaŭ? Asnoŭnaj idejaj było zabiaśpiečyć mahčymaść usim pramaŭlać na svajoj rodnaj movie, a zhavarycca nam dapamahli pierakładčyki. Arhanizavać pierakład ź litoŭskaj movy na biełaruskuju i naadvarot atrymałasia ŭpieršyniu. Tamu mnie vielmi radasna, što ŭ nas heta atrymałasia, i spadziajusia, što heta paspryjaje raźvićciu našych stasunkaŭ.

Raźvićciu stasunkaŭ pamiž daśledčykami hetym razam spryjali pierakładčyki. Sinchronny pierakład ź litoŭskaj movy na biełaruskuju dy naadvarot zabiaśpiečvali vilenčuki-biełarusy Nasta Jaŭmien dy Vadzim Vilejta. Aboje – kalehi nia tolki ŭ pierakładčyckaj dziejnaści: Nasta Jaŭmien da niadaŭniaha času plonna supracoŭničała z telekanałam "Biełsat", palitolah i hramadzki dziajač Vadzim Vilejta byŭ viadoŭcam pieradačy "Dva baki" na litoŭskim radyjo.

— Sinchronnym pierakładam ja zajmajusia šmat hadoŭ, – pryznajecca Vadzim Vilejta. – Davodziłasia pierakładać i ź litoŭskaj na rasiejskuju, i z anhielskaj na biełaruskuju, i z anhielskaj na rasiejskuju, na roznyja movy, ale litoŭska-biełaruski pierakład sobiła ažyćciaŭlać u pieršy raz mienavita na takim pradstaŭničym, vialikim, pryznačanym dla šyrokaj publiki mierapryjemstvie, čamu ja vielmi rady, bo dla mianie heta, vidać, samy pryjemny z usich pierakładaŭ, tamu što heta – pierakład z adnoj rodnaj movy na druhuju, z majoj pieršaj rodnaj biełaruskaj movy na movu litoŭskuju, na jakoj ja ciapier pastajanna pracuju, na jakoj atrymaŭ vyšejšuju adukacyju, i heta dla mianie sapraŭdy nia tolki praca, ale i vialikaje zadavalnieńnie dy śviata.



## Ahulnaja spadčyna

Niahledziačy na toje, što ź liku vasiamnaccaci pramoŭcaŭ Biełaruś na kanferencyi pradstaŭlali tolki try, biełaruščynie padčas mierapryjemstva ŭ roŭnych pravoch nie admaŭlałasia. Nia dziva: miarkujučy pa ŭsim, da vyvučeńnia tvorčaj spadčyny dy asensavańnia značeńnia asoby Michała Kleafasa Ahinskaha daśledčyki z troch krainaŭ vypracavali ahulny padychod.

— My majem ahulnaje minułaje, mieli ahulnuju dziaržavu na praciahu niekalkich stahodździaŭ. Tamu niama patreby ciahnuć koŭdru na siabie i kazać, što, maŭlaŭ, heta było tolki našaje, – zaznačyła Ramunie Šmihialskicie-Stukienie. – Hod Michała Kleafasa Ahinskaha pakazaŭ, što try narody, try dziaržavy mohuć źviartacca ŭ UNESCO, i tam pačujuć tuju prośbu, što heta aktualna dla troch dziaržavaŭ, i nivodnaja ź ich nie prysabiečvaje hetuju historyju. Michał Kleafas Ahinski jak palityk pradstaŭlaŭ Vialikaje kniastva Litoŭskaje, chacia svaje majontki mieŭ na terytoryi i sučasnaj Litvy, i sučasnaj Biełarusi. Jon byŭ adnačasova i litoŭskim, i polskim pasłańnikam u Haazie. Heta była čałaviek, jaki jak palityk pradstaŭlaŭ i VKL, i Reč Paspalituju. Takim čynam, hety čałaviek abjadnoŭvaŭ narody troch sučasnych dziaržavaŭ. Miarkuju, što hetaje mierapryjemstva pakazvaje, što my jaho nia dzielim, što ŭsie ŭsprymajuć jaho jak svajho. I, zrazumieła, jahonuju muzyku jak svaju. Aproč palityki, isnuje muzyka, jakaja nas jadnaje, i nie paŭstaje pytańniaŭ, čyja jana. Heta našaja ahulnaja spadčyna, našaje minułaje, na jakoje my abapirajemsia.

— Takija asoby, jak Michał Kleafas Ahinski abo Adam Mickievič, takija histaryčnyja, kulturnyja, hramadzkija postaci pavinny narody nie padzialać, a abjadnoŭvać, – miarkuje Vadzim Vilejta. – I voś Ahinski źjaŭlajecca vielmi vyraznym prykładam taho, jak čałaviek, hramadzki dziajač, moža svajoj dziejnaściu, svajoj spadčynaj, i kulturnaj, muzyčnaj, i histaryčnaj, i palityčnaj, moža budavać masty pamiž roznymi narodami.

## Pieražyć pahibiel dziaržavy

Zdavałasia-b, za dva z pałovaj stahodździ možna było daskanalna vyvučyć akaličnaści žyćciovych perypetyjaŭ i znakamitaha kampazytara, i słavutaha kniaskaha rodu. Adnak, miarkujuć daśledčyki, tajamnicaŭ kniazioŭ Ahinskich jašče šmat. Hramadzka-palityčnaje j kulturnaje značeńnie ich prymienšyć ciažka: na praciahu troch stahodździaŭ šmatlikija pradstaŭniki rodu Ahinskich zajmali ŭ Vialikim kniastvie Litoŭskim adkaznyja dziaržaŭnyja pasady.

*Praciah na star. 5*

# 1 верасьня...

*Працяг. Пачатак на стар. 1*

Колькасьць ахвотнікаў жыць і працаваць на карысьць літоўскай дзяржавы сёлета павялічылася. Супрацоўнікі навучальнай установы з задавальненьнем канстатуюць: беларускага палку ў Вільні прыбыло. Гэтай восеньню парог гімназіі пераступілі дваццаць першаклясьнікаў, і яшчэ столькі-ж сталі ганаровымі навучэнцамі падрыхтоўчае клясы.

— Трэці год працуе ў нас падрыхтоўчая кляса, – паведаміла пэдагог дашкольнай групы Вольга Скараходава. – У гэтым годзе былі нашыя выпускнікі-першаклясьнікі. Вельмі прыемна было за імі назіраць, як яны расказваюць вершы, як сябе паводзяць. Мы ганарыліся нашымі выпускнікамі, цяперашнімі першаклясьнікамі. Я да гэтага працавала ў падрыхтоўчай групе ў садку і, калі прыйшла сюды, таксама думала, як працаваць, навошта гэта, цяжка ці лёгка будзе нам. Калі дзеці наведваюць садок, а пасьля ідуць у школу, крышку страх застаецца: новыя настаўніцы, новыя дзеці, усё новае. А калі дзеці прыходзяць да нас, пачынаюць сябраваць, знаёмяцца з навакольлем, асяродзьдзем, з усімі настаўнікамі, з усімі дзецьмі школы – ім ня страшна, яны ўсё ведаюць, ведаюць сваю настаўніцу, ведаюць, куды ідуць, і ўжо першая кляса для іх была і жаданай, і не такой ужо й страшнай.

— Перад тым, як выбраць школу першай, старэйшай, дзяўчынцы, я зьбірала шмат інфармацыі, цікавілася кожнай школаю, і сэрца лягло менавіта да гэтай установы, – сказала маці дзьвюх гімназістак Жанна Антонава. – Ёсьць досьвед вучняў з гэтай школы, тут вельмі ўтульна, усе адзін аднаго ведаюць, маленькі калектыў, вядома, і беларускія карані – усё гэта ў комплексе вызначыла нашае рашэньне абраць для дачкі менавіта гэтую школу. А малодшую адправілі сьледам за старэйшай.

— У гэтым годзе мала таго, што да нас у першую клясу дваццаць чалавек прыйшло і ў падрыхтоўчую клясу таксама дваццаць чалавек, мы дасягнулі яшчэ аднаго рэкорда – нас больш за дзьвесьце. Гэта ўпершыню за ўсе дваццаць год! – пахвалілася Дзіяна Стахновіч. – Гэта рэкорд нас усіх, нашых настаўнікаў і бацькоў, якія вельмі зацікаўленыя ў нашай школе. Я думаю, што гэтая адзіная ў Літве беларуская гімназія дасьць свой плён. Тое, што мы – гімназія, вельмі важна сёньня для бацькоў, што дзеці могуць у нас вучыцца з нулявой па дванаццатую клясу, што ў іх ня будзе стрэсу зь пераходамі ў іншыя навучальныя ўстановы, што яны могуць увесь час тут знаходзіцца, вучыцца, наведваць гурткі, наогул, у нас вельмі цёплая ўтульная атмасфэра. Мне здаецца, што ў гэтым – таксама наш посьпех.

Беларуская школа ў Літве жыве ўжо трэцяе дзесяцігодзьдзе. Яна перажыла першапачатковае хвалюючае стаўленьне, а цяперашнія яе крокі больш упэўненыя і сьмелыя. Гімназія набірае вядомасьць ня толькі ў Літве, але і за яе межамі. Выпускнікі гімназіі папаўняюць шэрагі працоўнага і творчага жыцьця Літвы, Беларусі і іншых краінаў. За ўсё гэта беларусы Вільні ўдзячныя ўладам Літвы, якія шчыра спрычыніліся да адкрыцьця школаў нацыянальных меншасьцяў, Беларусі, якая ня толькі сочыць за жыцьцём школы, але й дзейсна апякае яе матар'яльна і маральна, штогод вылучаючы гімназістам месцы ў беларускіх ВНУ для атрыманьня вышэйшай адукацыі.

Гімназія не застаецца без увагі і нашых замежных суайчыньнікаў, якія цешацца тым, што беларускае слова і беларускасьць жыве і будзе жыць.

Гімназія Францішка Скарыны працягвае традыцыі першай Віленскай Беларускай Гімназіі (1919-1944), якая лічылася кузьняй беларускіх кадраў і эліты. Цяперашняя гімназія з гонарам працягвае выконваць гэтую задачу. Для гэтага тут ёсьць усе ўмовы – высокаадукаваныя настаўнікі, добразычлівыя адносіны, выхаваньне патрыятызму і талеранцыі, утульныя, абсталяваныя сучаснымі тэхнічнымі сродкамі кабінеты, добрае памяшканьне, бібліятэка, якую папаўняюць і беларускія выдавецтвы цудоўнымі кнігамі пра гісторыю, культуру, прыроду нашай роднай Бацькаўшчыны.

# Palanez i AES



**Dla biełarusaŭ i litoŭcaŭ palanez Ahinskaha "Raźvitańnie z Radzimaj" moža zahučać panovamu praz sto dzievianosta dva hady paśla napisańnia. Tryccać hadoŭ tamu paśla katastrofy ŭ Čarnobyli na paŭdniovym uschodzie Biełarusi abiaźludzieli cełyja vioski. Zrešty, pavodle infarmacyi Departamientu pa likvidacyi nastupstvaŭ katastrofy na Čarnobylskaj atamnaj elektrastancyi, u zonie radyjoaktyŭnaha zabrudžvańnia dahetul pražyvaje vośmaja častka nasielnictva Biełarusi.**

Apakaliptyčnaje hučańnie palanez "La minor" moža mieć i ŭ naš čas. Amal tracina nasielnictva Litvy raźvitajecca sa svaimi abžytymi dy nasiedžanymi rodnymi kutami, kali na Biełaruskaj atamnaj elektrastancyi blizu vioski Michališki na Astravieččynie, kryj Boža, adbudziecca avaryja. Jak ściviardžaje kolišni daradca addziełu palityki enerhietyčnaj biaśpieki Ministerstva zamiežnych spravaŭ Litoŭskaj Respubliki, a ciapier namieśnik ambasadara Litvy ŭ Biełarusi Vilijus Samujła, kali na Astravieckaj AES zdarycca niaščaście, dziaržava pavinna budzie pierasialić abo evakuavać ažno miljon žycharoŭ. Kolkaść nasielnikaŭ Biełarusi, jakija ŭ vypadku technahiennaj katastrofy buduć vymušanyja pakinuć rodnyja miasciny, nie padličvaŭ nichto.

Staršynia Vilenskaha haradzkoha kłubu "Siabryna" Valancin Stech pachodzić ź vioski Nidziany, što na Astravieččynie. Adtul da ahulnabiełaruskaj novabudoŭli naŭprost nia budzie j dziasiatka kilametraŭ. Tamtejšyja žychary majuć mažlivaść adnymi ź pieršych ŭpeŭnicca ŭ mahutnaj sile mirnaha atama.

— Z našaha nidzianskaha pola hetuju novabudoŭlu vidać, to bok heta zusim niedaloka, dumaju, moža, navat i siami kilametraŭ nie pieravyšaje, – paviedamiŭ Valancin Stech. – Reakcyja miascovych samaja roznaja, ad asudžeńnia da adabreńnia. Ludzi dumajučyja stavilisia i staviacca z asudžeńniem da hetaj budoŭli, tamu što jana niasie kankretnuju, realnuju niebiaśpieku. Što takoje siem kilametraŭ? Heta ničoha. Kali rvanie, to ad maich rodnych miaścinaŭ uvohule ničoha nie zastaniecca, a toje recha, jakoje adabjecca na navakolnym asiarodździ, siahnie daloka za miežy nia tolki rajona, jano siahnie za miežy Biełarusi ŭ zachodnim nakirunku, to bok i nam tut u Vilni taksama, jak kažuć, mała nie padasca.

Biaśpieka – pierš za ŭsio, zapeŭnivajuć u Biełarusi na vysokim dziaržaŭnym uzroŭni. A voś pavodle dadzienych Narvežskaha ahienctva radyjacyjnaj abarony i aŭstryjskaha Ŭniversytetu pryrodnych resursaŭ i prykładnych navuk ab žyćci, ŭ vypadku ciažkoj pazaprajektnaj avaryi na Biełaruskaj AES spatrebicca adsialeńnie žycharoŭ na adlehłaści da 300 i bolš kilametraŭ ad reaktara (hl. schemu).

# Vybitnamu...

*Praciah. Pačatak na star. 3*

Viadomamu kampazytaru, jaki prasłaviŭsia dziakujučy ŭsiaho tolki adnamu palanezu, aproč ščyravańnia na muzyčnaj i teatralnaj nivach, sobiła j apiekavać inicyjatyvy vilenska-haradzienskaj šlachty ŭ 1810-1811 hh.

— Michał Kleafas Ahinski byŭ asobaju, jakaja pieražyła pahibiel dziaržavy, - paviedamiła Ramunie Šmihialskicie-Stukienie. - Dziaržava była źniščanaja. I pytańnie, kolki asabistaj adkaznaści treba pryniać za toje, što tvaju dziaržavu źniščajuć, pytańnie maralnaha vyraśeńnia vielmi važnaje. Ciapier, kali my nazirajem źmienlivuju hieapalityčnuju situacyju, kožny z nas pavinien padumać, što my možam zrabić, kab našaja dziaržava, našaja supolnaść raźvivałasia i nie była-b źniščanaja. Michał Kleafas Ahinski pieražyŭ tuju pahibiel dziaržavy, jon išoŭ sa zbrojaj u rukoch suprać akupantaŭ. Jon zmahaŭsia padčas paŭstańnia 1794 hodu za volu svajho narodu i dziaržavy, cudoŭna razumiejučy, što darohi nazad niama, što, kali paŭstańnie budzie zadušana, stracić usio. Tak i stałasia. Jon straciŭ usie svaje majontki, jamu byŭ vyniesieny śmiarotny vyrak, i jon musiŭ chavacca, pakul nie źmianiłasia kanjunktura, pakul nie źmianiłasia palityčnaja mapa Eŭropy. Takim čynam, my bačym, što moža adbycca, kali svoječasova nie parupicca pra zachavańnie svajoj dziaržaŭnaści. Jość šmat analohijaŭ, paralelaŭ z tym, što moža adbycca, kali my nia budziem adkaznymi hramadzianami.

...U Biełarusi Michała Kleafasa Ahinskaha šanujuć dy pavažajuć nia tolki na vysokim dziaržaŭnym uzroŭni. Z pryvatnaj inicyjatyvy Mienskaha sacyjalna-ekanamičnaha fondu "Čystaje dziejańnie" u histaryčnym centry biełaruskaj stalicy, pobač z Katedralnym saboram Sviatoha Ducha dy płoščaj Svabody, letaś taksama źjaviłasia muzyčnaja łaŭka, dzie možna pačuć huki znakamitaha palanezu. Metalovy ŭsłon azdobleny vyjavaju hierbu "Ahiniec" z kniaskim płaščom, mitraj dy nadpisam na ruskaj movie "Vybitnamu synu Ajčyny — Ahinskamu Michaiłu Kleafasu".

# Адкрыцьцё забытага

**Віленскія нэкропалі, дзе нямала беларускіх пахаваньняў, не застаюцца па-за ўвагаю наведнікаў.**

**Традыцыйна ў дзень абвяшчэньня беларускай незалежнасьці адбываецца ўрачыстае шэсьце на могілкі Росы, да сымбалічнага месца апошняга спачыну бацькоў беларускай дзяржаўнасьці братоў Івана ды Антона Луцкевічаў. Завітваюць віленчукі й госьці літоўскай сталіцы й на Ліпоўку, ці Сьвята-Афрасінінскія могілкі, дзе летась восеньню беларуская грамада аднавіла надмагільле на месцы пахаваньня пэдагога Сяргея Паўловіча, а таксама ўпарадкавала магілу бацькі славутай паэткі Натальлі Арсеньневай – Аляксея Арсеньнева. Гэтага месца апошняга спачыну колішняга галоўнага віленскага мытніка чакала дванаццаць гадоў.**

Пахаваньне бацькоў Натальлі Арсеньневай віленскія беларусы знайшлі ў 2003 годзе з дапамогаю сьвятара Афрасінінскай царквы айца Уладзіміра Рынкевіча. Цяпер, калі гэтае месца вядомае, знайсьці яго проста. Адразу пасьля ўваходу на могілкі трэба збочыць налева і па сьцяжыне кіравацца ўніз. Камень знаходзіцца пры самай сьцяжыне – на адной рысе зь ім уверсе храм. Айцец Уладзімір, высьветліўшы знаходжаньне месца апошняга спачыну Арсеньневых, выказаў спадзяваньне, што беларуская грамада праявіць ініцыятыву й адновіць на надмагільлі мармуровы крыж.

Ініцыятыва беларускай грамады праявілася толькі праз дванаццаць гадоў пасьля знаходжаньня месца пахаваньня бацькоў Натальлі Арсеньневай на віленскай Ліпоўцы. Да мармуровага крыжа справа пакуль не дайшла. Затое надмагільны камень Арсеньневых аздобіла новая мэмарыяльная шыльда, якую выканаў уласным коштам беларускі мастак Аляксандар Панцялей.

Паводле зьвестак, знойдзеных дасьледчыкам Паўлам Саўчанкам у віленскіх архівах, Аляксей Аляксандравіч Арсеньнеў займаў адказную пасаду начальніка віленскай акружной мытні і жыў на вуліцы Сіроцкай (*цяпер Subačiaus g. – Рэд.*), дом №3, побач з Базыльянскімі мурамі, у кватэры №2. На думку Паўла Саўчанкі, бацька Натальлі Арсеньневай быў адукаваным афіцэрам, добра ведаў мытную справу. Спэцыялістам высокае клясы, якім быў Аляксей Арсеньнеў, давалі кватэры ў цэнтры горада.

— Увесь час мы адкрываем тое, што было зьнішчана, што было забыта, і гэта ў нас цэлы культурны працэс, – прамовіў падчас урачыстага адкрыцьця абноўленага надмагільля Арсеньневых беларускі палітык Зянон Пазьняк. – І гэты працэс паказвае, што нашая нацыя жыве, і ніякія злыя сілы яе ня зьнішчаць. Арсеньнеў па паходжаньні быў беларусам. Вядома, што ён быў чыноўнікам высокае клясы. Ён уваходзіў у намэнклятуру расейскіх чыноўнікаў, якія вызначалі палітыку Расеі. Ён быў чыноўнікам пятае клясы, парасейску гэта "статскій советнік", гэта значыць грамадзянскі дараднік. Паводле Табелі па рангах расейскіх грамадзянскі дараднік меў права быць віцэ-губэрнатарам ці намесьнікам кіраўніка дэпартамэнту, калі ў войску, то гэта быў брыгадзір.

Доўгі сьпіс значных рэгаліяў Аляксея Арсеньнева знайшоў месца на новастворанай мэмарыяльнай дошцы, замацаванай на надмагільлі. Аўтарам тэксту на шыльдзе стаў праваслаўны сьвятар айцец Леванід Акаловіч.

— Мы адзначалі ў саборнай царкве ў Нью-Ёрку юбілейную гадавіну Натальлі Арсеньневай, – падзяліўся ўспамінамі сьвятар. – Я рыхтаваў выставу, зьбіраў матар'ялы, у тым ліку генеалягічныя, і разьбіраўся, ці з роду Лермантава Арсеньневы ці не. Так я натрапіў на адну з кніжак пра гэтыя могілкі на Ліпоўцы. Сьвятар, які памёр у 1939 годзе, пасьпеў выдаць кніжку пра гэтыя могілкі. І там я натрапіў на згадку, што Арсеньнеў тут пахаваны. І мне захацелася знайсьці яго імя, даты жыцьця, і тут беларусы за пэўны час знайшлі па маёй наводцы гэтую магілу. Але на ёй не было ніякага подпісу, і мяне папрасілі тэрмінова стварыць подпіс, таму што тут маглі пахаваць кагосьці на гэтым месцы. Я заняўся пошукамі, знайшоў у віленскіх памятных кніжках імя па бацьку, пасады Арсеньнева. Тэкст я скампанаваў з таго, што мне было вядома.

Асьвячэньнем і добраўпарадкаваньнем надмагільля Аляксея Арсеньнева айцец Леванід Акаловіч пастанавіў не абмяжоўвацца. Наступнай ягонай задачаю сталі пошукі ў нетрах віленскіх архіваў зьвестках пра маці ды брата Натальлі Арсеньневай. Род беларускай паэткі зацікавіў сьвятара сваёй загадкавасьцю.

— Натальлі Арсеньнева – вядомая паэтка, яе ведаюць ня толькі за мяжой, але і ў Беларусі, – сказаў сьвятар. – У нас створаны яе фонд, і кніжкі ёсьць і ў беларускіх энцыклапэдыях пішуць, нягледзячы ні на што. Яе генэалёгія ў нейкай ступені загадкавая. Чаму Арсеньнева, па бацьку руская, пачала пісаць пабеларуску? Можа, ад маці ідзе, можа, ад бацькі, па бацьку, як казаў Зянон Пазьняк, таму вельмі важна высьветліць пра саму асобу Арсеньневай. Ці праўда яна – далёкі нашчадак роду Лермантавых? Тут загадак многа яшчэ, і, я думаю, можна вывучаць і вывучаць яе архівы. Яны параскіданыя, парастрыбушаныя, але паступова зьбіраюцца.

Адным з самых вядомых твораў Натальлі Арсеньневай зьяўляецца верш "Магутны Божа". На мяжы тысячагодзьдзяў ён называўся ў ліку магчымага дзяржаўнага гімну Беларусі. Цяпер-жа "Магутны Божа" часта гучыць у беларускіх храмах, набыўшы статус рэлігійнага гімну.

— Мы ў праваслаўнай царкве пяём, многія службы, асабліва ўрачыстасьці, мы заканчваем гімнам "Магутны Божа", – пацьвердзіў а. Леванід Акаловіч. – Выкарыстоўваем яго напрыканцы службы: у службу ён ня можа ўкладацца. Але як гімн, як урачыстая частка завяршэньня літургіі прысутнічае заўсёды і ў беларускай эміграцыі, і ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве ў Менску.

# Ad Mienska da Vilni.

## Historyja Biełarusi ŭ žurnaliscki ch natatkach

**Hetak nazyvajecca kniha biełaruskaha historyka, žurnalista dy ekskursavoda Viktara Korbuta. Navukova-papularnaje vydańnie pabačyła śviet sioleta ŭ vydaviectvie "Biełaruś" pry padtrymcy Ministerstva infarmacyi Respubliki Biełaruś. Prezentacyja abjomnaha falijantu była arhanizavanaja sioleta ŭ Kłubie piśmieńnikaŭ Litvy ambasadaj Respubliki Biełaruś u Litoŭskaj Respublicy.**



*Viktar Korbut i Aliaksandar Karol*

Miesca praviadzieńnia ŭračystaści, pavodle ambasadara Biełarusi z Litvie Alaksandra Karala, było abranaje nie vypadkova:

— Mienavita ŭ hetym budynku sa svajoj bahataj historyjaj ŭ svoj čas spynialisia vydatnyja dla biełaruskaj kultury asoby: viadomy piśmiennik, paet, dramaturh Uładzimir Karatkievič i litaraturaznaviec, publicyst Adam Maldzis, - paviedamiŭ Alaksandr Karol. - Chočacca vykazać ščyryja słovy ŭdziačnaści Kłubu piśmieńnikaŭ i jaho kiraŭniku za mahčymaść u hetaj vielmi ŭtulnaj i pryhožaj zali arhanizavać prezentacyju knihi, jakaja znajomić čytača sa šmatlikimi faktami sumiesnaj historyi žyćcia j tvorčaści viadomych biełaruskich dziejačoŭ, čyj žyćciovy i tvorčy šlach byŭ źviazany ź Litvoj.

— Hetaja kniha pisałasia vielmi šmat hadoŭ, - paviedamiŭ aŭtar vydańnia Viktar Korbut. - Faktyčna heta - sabranyja pad adnoj vokładkaj artykuły, jakija vychodzili ŭ roznych vydańniach u Biełarusi, pačynajučy ź 2002 hodu. U niejki momant ja zrazumieŭ: toje, što raściarušana pa hazetach, pa časopisach, užo nikoli nia budzie sabrana razam, ale jano isnuje ŭ majoj hałavie. Skłaŭsia peŭny vobraz: ja ŭžo ŭjaŭlaju sabie Biełaruś, Miensk, Vilniu i moh-by padzialicca hetym svaim ujaŭleńniem ź ludźmi, jakim heta cikava. Ja padumaŭ, što pavinien sabrać hetyja publikacyi i vydać jak knihu. Faktyčna ŭ hetaj knizie ja padaju takuju prahramu-minimum, a ŭ niejkim sensie j prahramu-maksimum paznańnia historyi Biełarusi praz pryzmu analizu tych padziej, jakija adbyvalisia ŭ minułym, i historyi dźviuch stalicaŭ - z adnaho boku, histaryčnaj litoŭska-biełaruskaj Vilni i sučasnaj stalicy Mienska. Kniha pryśviečanaja historyi nia tolki Vilni, ale j Mienska, roznym prablemnym pytańniam historyi Biełarusi, pačynajučy ad taho, adkul pachodzić nazva "Biełaruś", i zakančvajučy prablemaj vybaru nacyjanalnych symbalaŭ, stvareńnia biełaruskaj dziaržavy. Piaćsot staronak hetaj knihi plus stolki-ž ilustracyjaŭ dajuć mahčymaść čytaču razam sa mnoj pahłybicca ŭ našu minuŭščynu, zrazumieć, nakolki Vilnia važnaja ŭ historyi Biełarusi, u našym losie.

Da źjaŭleńnia na śviet knihi Viktara Korbuta "Ad Mienska da Vilni. Historyja Biełarusi ŭ žurnaliscki ch natatkach" najbolš poŭnym zboram źviestak pra biełaruskuju častku historyi stalicy Litvy byŭ tvor hramadzkaha dziejača Lavona Łuckieviča "Vandroŭki pa Vilni", jaki pabačyŭ śviet u vydaviectvie "Ruń" u 1998 hodzie. "Pra Vilniu napisana niamała knih, kudy bolš hruntoŭnych dy jomistych, z padrabiaznym apisańniem padziejaŭ, bijahrafijami dziejačoŭ, ale pra Vilniu, jak pra biełaruskuju duchoŭnuju Mekku, badaj što niama inšaj, čym heta. Dyj nie mahło być - bo vielmi mnohija z tych, chto ŭ roznyja časy mieŭ uładu nad hetym horadam, chacieli-b, kab biełaruski duch, biełaruski śled nazaŭsiody ściorsia z hetych vuzkich pakručastych vułačak, kab ničoha nie nahadvała tut ni pra Skarynu, ni pra Hareckaha, ni pra bratoŭ Łuckievičaŭ... Dyk i nia dziŭna, što ślady hetyja, časam ledź čytelnyja, tak ciažka było znachodzić, jany rassypanyja, razroźnienyja - i zasłuha aŭtara hetaj knihi taja, što źviestki j fakty, zdabytyja sa šmatlikich krynicaŭ, tut bieražliva sabranyja, złučanyja, systematyzavanyja. Lavon Łuckievič nia prosta vydatna viedaŭ biełaruskuju Vilniu - jon lubiŭ jaje, žyŭ joju i dla jaje - i z achvotaju, ščyra j bieskarysna dzialiŭsia svaimi viedami z usimi, chto hetaha žadaŭ. Peryjad, kali heta možna było rabić adkryta, lehalna, byŭ, na žal, niepraciahły. I spadar Lavon imknuŭsia jak najlepš skarystać hetuju mahčymaść - badaj što nie było takoha vypadku (chiba tolki zdaroŭje padvodziła) - kali-b jon admoviŭ kamu-niebudź pavandravać supolna pa ŭlubionych miaścinach Vilni, pakazać, rastłumačyć..." - pisaŭ u pradmovie da "Vandrovak..." vilenski mastak i litaratar Aleh Abłažej.

Zrešty, sam Lavon Łuckievič nie pretendavaŭ, kab "jahonaja praca razhladałasia jak navukovaje daśledavańnie ci ŭsystematyzavany turystyčny daviednik. Heta pozirk staroha biełarusa-vilenčuka, karennaha žychara Vilni na biaskonca luby jamu rodny horad. Lepšaje paznańnie suajčyńnikami pomnikaŭ biełaruskaj historyi j kultury Vilni budzie dla jaho najlepšaj uznaharodaj" - pisaŭ jon u knizie.

— Jakraz kniha Lavona Łuckieviča mianie doŭhija hady padšturchoŭvała da taho, kab zaniacca daśledavańniami Vilni, - pryznaŭsia Viktar Korbut. - Faktyčna z hetaj pracy Łuckieviča vyrasła maja praca, ź jaho cahlinki - maja cahlinka. Tam buduć jašče cahlinki, tak što hety mur biełaruskaj Vilni budzie raści, spadziajusia, ale toje, što sapraŭdy zrabiŭ Lavon Łuckievič - na žal, jon nia ŭbačyŭ svajoj knižki, jon pamior da vychadu jaje ŭ śviet - zastaniecca na viaki, nazaŭsiody, i ja spasyłajusia na jaje j liču, što biaz hetaj knihi, mahčyma, i majoj nie było-b.

— Vilnia ŭ historyi biełaruskaj kultury - źjava nieparaŭnalnaja. Niama bolš takoha ŭłasnaha jmia, čyj vobraz natchniaŭ-by tvorcaŭ na lepšyja tvory, - zajaviła padčas svajho vystupu na prezentacyi knihi Viktara Korbuta aŭtarka vydańnia "Staraja biełaruskaja Vilnia", nastaŭnica biełaruskaj movy Vilenskaj himnazii jmia Franciška Skaryny Alena Baziuk. - Vilniu ŭ hetym sensie možna paraŭnać chiba što z vobrazami rodnaha słova i maci.

*Praciah na star. 8*

# Skarb, jakoha nie ŭkradzie złodziej...

***Adolf KLIMOVIČ***

Brr... Aż strašna robicca, kali prychodzicca pisać uspaminy ŭžo z-pad 25-ci hod. Ale ŭžo-ž tak jość!

Hod 1918. Vosień. Žyvučy ŭ Novaj Vialejcy, ja najmienš adnojčy ŭ tydzień byvaŭ u Vilni i pry kažnaj mahčymaści zahladaŭ na Vilenskuju vulicu, 33, dzie tady hurtavałasia biełaruskaje žyćcio Vilni. Tam dažyvaŭ svaje dziańki sivy "Homan", tam pa Novym 1919 h. radziŭsia "Hramadzianin". Zachodziačysia tudy, čałaviek byccam z hałavoju davaŭ nyrca ŭ novaje žyćcio, asabliva kali ŭdavałasia sustreć tam niaboščyka Ivana Łuckieviča, katory pałavaŭ tut, jak mnie zdajecca, na stałych i tym bolš na vypadkovych haściej, kab ad ich i praź ich daviedacca, što dziejecca ŭ Kraju, dy kab z razmoŭcy vyrabić dobraha hramadzianina Kraju, biełarusa. Sam ja vieści hetakija hutarki nia mieŭ achvoty, ale strašna lubiŭ da hetych hutarak prysłuchoŭvacca.

Hetak voś adnojčy j dačuŭsia ja, što ŭ Vilni maje być adčyniena Biełaruskaja Himnazija. Było heta niešta na pierałomie 1918/1919 hh. Chutka daviałosia mnie tam-ža paznać i budučaha dyrektara hetaje Himnazii, siańnia ŭžo niaboščyka, Michała Kachanoviča. U maich vačach na toj čas – ja mieŭ tady skončanuju 4-ch klasovuju Vyšejšuju pačatkovuju škołu dy niamały zapas viedy zdabytaj samaadukacyjaj – Himnazija zdavałasia byccam niejkim Alimpam, a jejny dyrektar što najmienš baradatym Zieŭsam; patrapić tudy mnie j padumać było strašna.

Čas išoŭ i to čas cikavy. Adstupajučych u apošnija dni 1918 h. niemcaŭ źmianiła polskaja "Samaabarona", praz mament i raŭnalehła byli ŭ Vilni addzieły Litoŭskaj Taryby. Na źmienu abiedźviem pryjšła Čyrvonaja Armija Radavaj Litvy-Biełarusi, jakuju taksama źmianili lehijanery Ju. Piłsudzkaha... Dumaju, što nie biez upłyvaŭ hetych padziejaŭ naśpiavali i ŭ mianie dumki štoraz bolš "revalucyjnyja", ab katorych pierš i padumać było niajakava. U mižčaśsie ja pierasialiŭsia ŭ Vilniu, dyk "alimpijskija bahi" stalisia mnie jašče byccam bolš "padobnymi da ludziej", choć "počtitielnaja otdalonnost'" usio-ž dla mianie astavałasia praviłam. Pracavaŭ ja karektaram u "Vydavieckim T-vie" dy kančaŭ Biełaruskija Nastaŭnickija Kursy i ŭžo voś-voś rychtavaŭsia stacca niejkim tam "čynam" (znača ŭradaŭcam), jak raptam stałasia niešta, što pakiravała mianie ŭ druhi bok: mianie abakrali i to davoli "čysta". Pakraža heta padziejała na mianie niejak dziŭna. Škada mnie stała taho, što tak ciažka j mazalista zdabyvałasia, ale, nia viedaju čamu, a mianie hety vypadak nastroiŭ na "evanhieličny ład" (tak!): mnie čamuści prypomniŭsia jevanhieličny prykład ab skarbie, akoha "złodziej nie ŭkradzie, ani mol nie sapsuje". U henu minutu hetym skarbam mnie zdałasia być vieda j hetu "viedu" zdabyć mnie pakazałasia kaniečnaściu.

Ale jak? Adno peŭnaje, što daroha viała praz himnaziju, jakaja pamima ŭsiaho zdavałasia mnie być niejak i dalej i... strašnaj. Ale pastanova była, i ja parašyŭ dziejać ślacham akolnym – praz ksiandza Adama Stankievіča, jaki tady źjaviŭsia na vilenskim hruńcie jak redaktar "Krynicy", jak vučyciel tej-ža Himnazii, j jakoha mnie daviałosia paznać pierš z apaviadańniaŭ majho ziemlaka z Śviancianščyny, paeta j filozafa Svajaka (ks. Stepoviča), a paśla i biezpasredna ŭ samaj Vilni. Jamu pieršamu źvieryŭsia ja z svaich planaŭ, a jon uzachvociŭ mianie jašče bolš dy skantaktavaŭ mianie z dyrektaram Kachanovičam. Stałasia. Niekalki farmalnaściaŭ – i 20 kastryčnika 1919 h. (dakładna čamuś pamiataju) ja ŭpieršyniu pierastupiŭ paroh biełaruskaj škoły.

Nia važusia ani siahońnia apisać taho pačućcia niejkaj byccam relihijnaj adaracyi dla navuki, jakaja, pa-mojmu, musiła kryničyć z hetaje Himnazii.

Viasna 1921 hodu. 1-aja Vilenskaja Biełaruskaja Himnazija (hetak tady naša Himnazija aficyjna nazyvałasia) rychtavałasia da druhoha vypusku. Vośmaja klasa z saraka kandydataŭ i kandydatak mieła niapoŭnuju dvaccatku, jakaja



aficyjna pisałasia biełaruskaja. Jašče ciažej vyhladała tady sprava z movaj ahulnaha parazumieńnia hetych-ža biełarusaŭ, nie havoračy ŭžo ab pałavinie druhoj, jakaja havaryła ŭ balšyni pa-rasiejsku, a častkova – pa-polsku. Žyćcio biełaruskaje ŭ nas tady adnak kipieła. Byŭ Hurtok Biełaruskaj Moładzi (inicyjatary: Vincent Hryškievič dy braty Aŭhien i Arnold Dylisy z małodšych klasaŭ). Byŭ svoj časapis "Maładoje Žyćcio" (redaktar spačatku Alaksandar Puśko, a paśla Mik. Iljašević), u jakim, možna skazać, vastryła svajo piaro siańniašniaja naša paetka Natalla Arsieńnieva dy nadziejna prezentavaŭsia prazaik Muryn-Bazylanski (zamoŭk biasśledna, žyvie niedzie na emihracyi ŭ Čechii).

Ź niapoŭnaj dvaccatki biełaruskich maturystaŭ druhoha vypusku (1921 h.) 1-aj Vił. Bieł. Himnazii biazsporna pieršaje miesca naležyć siańnia paetcy Natalli Arsieńnievaj. Niekatorych maturystaŭ prykryła ŭžo mahilnaje dziarno (L. Makoŭskaja), inšyja biaz sobskaje achvoty "daśležvajuć" centralny Sybir (inž. Aleś Sasnoŭski), balšyniu adnak zasmaktała žyćcio.

Voś śpis biełaruskich maturystaŭ druhoha vypusku: Volha Akuška, Natalla Arsieńnieva, Halina Bonč-Asmałoŭskaja, Hanna Łabuć, Luba Makoŭskaja, Hanna Uładzimierskaja, Maryja Vasiljeva, Valarjan Aleksiejuk, Bahdan Bonč-Asmałoŭski, Adolf Klimovič, Mikoła Liatkievič, Alaksandar Puśko, Alaksandar Sasnoŭski. Z usich pieraličanych tolki traim udałosia dakončyć aśvietu ŭ škołach vyšejšych (na emihracyi): Valarjanu Aleksiejuku (doktar medycyny), Alesiu Sasnoŭskamu (inžynier-leśnik) dy nižej padpisanamu. Z hetym-ža druhim vypuskam 1-aj Vił. Bieł. Himnazii vyjšaŭ eksternam viadomy movavied dr. Janka Stankievič.

Los balšyni vučycialoŭ Himnazii taje pary siahońnia mała viedamy. Dzie znachodziacca vykładčyki bieł. movy j litaratury Maksim Harecki i Anton Łuckievič, što jość z matematykam Viačasłavam Bahdanovičam? Nia žyvuć užo: Łaskovič dy Bahdanovič Hienadź.

Nia maju słoŭ padziŭleńnia da pedahahičnych zdolnaściaŭ matematyka j fizyka Al. Dmachoŭskaha. Vučycielem polskaj movy ŭ nas adzin čas byŭ viedamy dramaturh, siańnia redaktar. Fr. Alachnovič. Da siońnia pracujuć u Himnazii, jak prad 25-ciu hadami, ks. Ad. Stankievič i Alona Sakałova-Lekant dy z trudom vałače pa Vilni (zahladajučy časta i ŭ Himnaziju), pa placach ciažar siomaha dziasiatka biaźmienny ŭ praciahu 15 hod staršynia Baćkoŭskaha Kamitetu pry Himnazii Mitrafan Kiepiel...

*19.I.1944 h.*

# Ad Mienska da Vilni...

*Praciah. Pačatak na star. 6*




Łandšaft i vieličnyja budynki Vilni, na dumku A.Baziuk, zaŭsiody cikavili maładych tvorcaŭ, davali siły dziela nastupnaha chranalahičnaha vitku.

— Ja spadziajusia, što heta tolki pačatak asensavańnia Vilni biełarusami j litoŭcami razam, - paviedamiŭ Viktar Korbut. - Naturalna, što Vilnia, navat kali jana była savieckaj farmalna, nikoli savieckaj nie była. Ale sprava tut nie ŭ savieckaści, a ŭ tym, što hety horad najlepš zachavaŭ tyja budynki, tyja pradmiety kultury, jakija śviedčać pra tradycyi našaj dziaržaŭnaści, movy, kultury. Jon moh być raźbity ŭ lubuju z suśvietnych vojnaŭ, u lubuju z sacyjalistyčnych rekanstrukcyj, i, zrešty, Vilnia paciarpieła ad rekanstrukcyj taksama. My viedajem, što, naprykład, vulica Niamieckaja (*Vokiečių g. - **Red.***) była napałovu ŭžo źniščanaja paśla vajny, ad jaje zastalisia ruiny. Tak što Vilnia taksama stračvała, ale hety horad vystajaŭ. Miensk straciŭ našmat bolš. Ale taksama vystajaŭ. I ja ŭ svajoj knizie pakazvaju paraleli pamiž architekturaj, kulturaj dźviuch stalicaŭ, bo pomniki architektury baroka ŭ Miensku ŭ tym-ža samym styli stvoranyja, što i ŭ Vilni. Kali ja vadziŭ ekskursii pa Miensku časam dla ludziej, jakija dobra viedajuć architekturu, jany kazali: "Nu što vy nas tut ździŭlajecie, my heta ŭžo bačyli ŭ Vilni". Tak što ahulnaha pamiž krainami j haradami našmat bolš, čym my prosta navat mahli-b padazravać.

Śviežaje vydańnie pryznačanaje šyrokaj aŭdytoryi, ale najpierš tym, chto nia moža zastacca abyjakavym da Vilni. Tolki voś ci šmat hetkich ludziej? U litoŭskaj stalicy naličvajecca ažno dvanaccać prafesijnych hidaŭ, jakija ŭ stanie pravodzić biełaruskamoŭnyja ekskursii. Było-b dla kaho.

— Turystaŭ ź Biełarusi siudy ŭ Vilniu pryjazdžaje dastatkova šmat. Na žal, cikavicca biełaruskaściu nievialikaja ich kolkaść, - paskardziłasia nastaŭnica j hid pieršaj katagoryi Alena Zabielskaja. - Ale jość i niejkaja častka, čaściej za ŭsio tyja, jakija pryjazdžajuć u biełaruskuju himnaziju. Heta takaja katehoryja ludziej, jakich, viadoma, cikavić Vilnia, toje, što źviazana ź Biełaruśsiu. Viadoma, jość i takija. Na žal, pracent ich nievialiki. Na sionnia heta tak.

— Ludzi nie cikaviacca historyjaj našaha horada, a kali j cikaviacca, to ŭ pieršuju čarhu kropkami handlu albo niejkimi spartyŭnymi zalami, atrakcyjonami i hetak dalej, - padtrymaŭ kalehu ekskursavod i hramadzki dziajač Valancin Stech. - Kab cikavicca biełaruskaj Vilniaj, treba ŭsio-ž dasiahnuć, tak-by mović, peŭnaha ŭzroŭniu.

Pavodle Aleny Zabielskaj, kniha Viktara Korbuta musić pavysić u biełaruskich turystaŭ hradus cikavaści da litoŭskaj stalicy. Na dumku-ž Valancina Stecha, vydańnie padachvocić pryjechać u Vilniu i prajścisia tymi miaścinami, jakija ŭ im apisvajucca, tolki niekatorych:

— Hetaja kniha raźličanaja na peŭny kantynhient nasielnictva. Kali čałaviek uvohule minaje kniharniu, nia viedaje, čym tam handlujuć, to samyja vydatnyja knihi jamu nie dapamohuć, jon prosta ich nia budzie bačyć.

— Užo sam fakt źjaŭleńnia ŭ dziaržaŭnym vydaviectvie knižki nakładam u tysiaču asobnikaŭ, jakaja pradajecca ŭ asnoŭnych kniharniach Mienska, adkryvaje mahčymaść dla luboha čałavieka, jaki maje hrošy, kab kupić knihu, jaje kupić, pračytać, daviedacca i pryjechać u Vilniu šukać ekskursavoda, - pierakanany Viktar Korbut. - Ja dumaju, nia varta spadziavacca na toje, što adbudziecca niejki vybuch cikavaści biełarusaŭ da kulturnaj spadčyny Vilni, ale peŭny zruch adbudziecca, moža być, jon užo adbyvajecca, i praź niekalki hadoŭ my hety zruch adčujem.

Na knizie "Ad Mienska da Vilni. Historyja Biełarusi ŭ žurnalisckich natatkach" Viktar Korbut spyniacca nie źbirajecca. U tvorčych planach daśledčyka historyi biełaruska-litoŭskaj Vilni ŭžo śpieje zaduma novaha navukovaha vydańnia:

— U mianie jość mara napisać navukovuju pracu, pryśviečanuju historyi biełaruskaha nacyjanalnaha ruchu ŭ Vilni ŭ 1906-1918 hadoch, supracoŭnictvu biełaruskich dziejačoŭ kultury ŭ hety čas z polskimi j litoŭskimi, - padzialiŭsia Viktar Korbut. - Heta vielmi važny peryjad: faktyčna ź jaho pačynajecca pieradhistoryja biełaruskaj dziaržaŭnaści. U 1918-1919 hadoch na mapie śvietu źjaŭlajucca Biełaruś, Litva, sučasnyja dziaržavy, i hetaja rabota da 1918 hodu viałasia biełarusami j litoŭcami razam. I voś hetaj temie našaha ščylnaha supracoŭnictva, jakoje praciahvajecca ŭ našyja dni, ja źbirajusia pryśviacić svaju čarhovuju pracu.

РУНЬ Беларуская газэта ў Вільні
Baltarusių laikraštis Vilniuje
Выдаецца з 1997 году
Выходзіць нерэгулярна
Друкуецца кірыліцаю (клясычным правапісам) і лацінкаю
Выдавец: Віленскі цэнтар грамадзкіх ініцыятываў "Дэмакратыя для Беларусі"
Адрас рэдакцыі:
LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26
Тэлефоны: + 370 5 261 62 24,
+ 370 604 625 91
e-mail: hazetarun@gmail.com
**Сяржук Гаўрыленка** – рэдактар
**Алег Мінкін** – літаратурны рэдактар
**Павал Саўчанка** – сакратар
Наклад **500**
Адрас для допісаў:
**"Рунь", LT-10323 Vilnius-55, Smelio 23-26, Lietuva – Lithuania**

НІЗКІ ПАКЛОН
ЗА АХВЯРАВАНЬНІ
Кастусю Вераб'ю, Вікторыі Мурашкене, Кацярыне Вініцкай і інш.

Нумар надрукаваны пры падтрымцы Дэпартаманту нацыянальных меншыняў пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі.

Šio laikraščio leidimą iš dalies finansuoja Tautinių mažumų departamentas prie Lietuvos Respublikos Vyriausybės.